МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**№12** (117)
**снежань 2011**

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



## ВІНШАВАННІ




© ІП Бахун Т. У.

*Шаноўныя сябры!*

*Ад імя Управы і супрацоўнікаў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуем усіх беларусаў на Радзіме і ў замежжы з Калядамі і Новым годам!*

*Няхай усё змрочнае застанецца ў мінулым, а надыходзячы год падорыць Вам і Вашым блізкім радасць абнаўлення і ўсё толькі самае добрае і светлае. Няхай сэрцы поўняцца надзеяй на лепшае, у Вашых хатах будзе цёпла і ўтульна, няхай заўжды хапае сіл не збочыць з абранага шляху і заставацца вернымі сваім ідэалам.*

*Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, душэўнай цеплыні, поспехаў ва ўсіх Вашых справах. Хай заўжды з Вамі будзе Ваш анёл-абаронца!*

*Шчаслівых Калядаў і Новага году!*

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

# НАВІНЫ КАМПАНІІ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

**Поўная перазагрузка з Алегам Скрыпкам**

Урачыстая прэзентацыя аўдыёдыска "Будзьма! Тузін. Перазагрузка-2" адбылася 15 снежня ў Мінску. На прэс-канферэнцыі прадстаўнікі кампаніі "Будзьма беларусамі!", партала "Tuzin. FM" і лідар гурта "Воплі Відаплясава" Алег Скрыпка расказалі пра стварэнне другой складанкі, блізасць беларускай і украінскай культур і падзяліліся планамі на будучыню. Спецыяльным падарункам для гасцей стала этна-дыскатэка ад Алега Скрыпкі.

"Перазагрузка-2" – працяг паспяховага праекту, што быў прадстаўлены шырокай публіцы ў 2009 годзе. Два гады таму вядомыя небеларускамоўныя выканаўцы з Беларусі перапявалі свае хіты на роднай мове. У другой частцы праекту ўзялі ўдзел замежныя выканаўцы розных стыляў: "Воплі Відаплясава", Oleg Jagger, "Мумий Тролль", Dreamgale, 5diez, Макс Лорэнс, Марыя Тарасевіч, Аляксандр Рыбак, "Смысловые

➲




*Сяргей Будкін, Алена Макоўская, Алесь Кот-Зайцаў, Алег Скрыпка, Уладзь Лянкевіч*

галлюцинации", Leon Gurvitch Project, Zdob si Zdub і Алёна Свірыдава.

Падчас прэс-канферэнцыі Алена Макоўская, каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!", паведаміла, што кампанія не збіраецца спыняцца на гэтым рэлізе, але фармат "Перазагрузкі-3" будзе таямніцай да апошняга моманту. "Нам хацелася б выпусціць больш наклад гэтага праекту. Бо нават 1000 дыскаў у межах Беларусі — гэта кропля ў акіяне. Цяпер будзем весці працу па прасоўванні песняў у эфіры fm-радыёстанцый, а таксама працаваць на рэгіёны. Інтэрнэтам у нас карыстаецца ўсяго 30% насельніцтва, а данесці яго хочацца да ўсёй краіны. Магчыма, гэта будзе серыя рэгіянальных прэзентацый, трэба толькі вызначыцца з фарматам".

Алег Скрыпка расказаў, што вельмі любіць "стыльныя і натхняльныя музычныя праекты з вялікай сацыяльнай значнасцю". Шчыра прызнаўся ў любові да беларускай мовы, якую разам з украінскай лічыць самай мілагучнай у свеце.

Тэма зносін беларускай і ўкраінскай нацыяў стала лагічным фіналам прэс-канферэнцыі. "Беларусы — вельмі руплівая і працаздольная нацыя. А вось украінцы маюць харызму, якая збераглася разам з казацкім, атаманскім духам, і калі абодвум народам аб'яднацца ў творчым плане, то магло б атрымацца ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва, я думаю", — сказаў музыка. Алег Скрыпка акрэсліў магчымасці стварэння праекту, аналагічнага "Перазагрузцы", і ва Украіне і прапанаваў распачаць вялікую беларуска-ўкраінскую культурніцкую кампанію.

Спампаваць альбом "Будзьма! Тузін. Перазагрузка-2" цалкам можна з budzma.org



*Алег Скрыпка ў ролі ды-джэя*

## Рэгіянальныя ток-шоў ад кампаніі "Будзьма беларусамі!"

Кампанія "Будзьма беларусамі!" арганізавала серыю афлайнавых ток-шоў у трох абласных цэнтрах Беларусі: Магілёве (25 лістапада), Брэсце (1 снежня), Гродне (8 снежня). Тэма кожнай сустрэчы была абраная адпаведна рэаліям і праблемам рэгіёна, але агульным быў іх фармат — адкрытасць для людзей розных плыняў і поглядаў на праблемы культуры. У ток-шоў узялі ўдзел вядомыя музыкі, мастакі, літаратары, гісторыкі, грамадскія дзеячы, журналісты, прадстаўнікі бізнэс-структур, маркетолагі.

У Магілёве ўдзельнікі ток-шоў абмеркавалі, ці магла б быць удалай другая ў гісторыі горада спроба стаць сталіцай, размова ішла пра магчымасць надання гораду статусу культурнай сталіцы СНД у 2013 годзе.

З крытыкай гэтай ідэі выступіў журналіст Алесь Буракоў, ён назваў прэтэнзіі на такі статус карыкатурнымі і выказаў думку, што варта адмовіцца ад такіх планаў, каб не зрабіць горад аб'ектам насмешак і не ператварыць ідэю ў фарс.

У падтрымку наданню Магілёву статусу культурнай сталіцы выказваліся гісторыкі. Ігар Пушкін назваў больш за дзясятак датаў, якія будуць "круглымі" ў 2013 годзе і не пакінуў сумневаў – моцная гістарычная спадчына ёсць! Актыўна падтрымалі яго і калегі. Старшыня мясцовай суполкі ТБМ Алег Дзячкоў назваў гістарычную спадчыну Магілёўшчыны найвялікшай у краіне, а гісторык Аляксандр Агееў абвясціў карыкатурным сам цэтлік "карыкатурнасці".

Высновай вечару стала тэза пра тое, што такая маштабная падзея магла б стаць часткай платформы для кансалідацыі беларускага грамадства вакол беларускіх каштоўнасцяў.

У Берасці ток-шоў прайшло пад назвай "Беларускае – самае маё?". У якасці экспертаў выступілі філосаф Анатоль Ляўковіч, мастак Аляксандр Грыгор'еў, арганізатар канцэртаў Зміцер Назараў, музыка Уладзіслаў Філіпаў.

Анатоль Ляўковіч падчас свайго выступлення ўзняў праблему самаідэнтыфікацыі, калі "беларус не ведае, што ён беларус". На яго думку, у час жыццёвых выпрабаванняў кожны народ мусіць узняць сцяг нацыянальных каштоўнасцяў, але пры гэтым не забываць пра гармонію нацыянальнага і агульначалавечага.

Зміцер Назараў падзяліўся досведам паспяховай арганізацыі святаў беларускасці і канцэртаў у супрацы з мясцовымі ўладамі.

Вынік мерапрыемства падвёў вядоўца ток-шоў Зміцер Кісель, сфармуляваўшы яго так: "Працягваць грукацца ва ўсе дзверы! Папулярызаваць сучасную беларускую культуру і рупіцца пра яе важнасць і значнасць". Многія прысутныя ў гэты вечар знайшлі аднадумцаў, якіх нават не ведалі раней.

У Гродна пагутарылі пра змест, эфект і адметнасці культурнай афішы горада. Спектр закранутых падчас мерапрыемства праблем быў надзвычай шырокім: ад беларускамоўных класаў да моладзевых субкультур.

Адной з галоўных высноваў вечара стала тое, што беларуская культура стэрэатыпна ўспрымаецца як выключна фальклорна-сялянская, і таму варта падтрымліваць і развіваць яе сучасныя формы.

Праведзеныя ў трох розных рэгіёнах краіны мерапрыемствы паказалі, што толькі разам падчас грамадскага абмеркавання можна зразумець, якія праблемы ў нас ёсць, і толькі разам магчыма высветліць, як дзейсна іх вырашаць.

*Паводле budzma.org*

# ВЕЧАР ПАМЯЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА Ў КАЛІНІНГРАДЗЕ

Таварыства беларускай культуры ў Караляўцы (Калінінградзе) адсвяткавала 120-годдзе Максіма Багдановіча. Свята сустрэчы з паэзіяй арганізаваў старшыня таварыства Ігар Шаховіч, які ўжо неаднаразова збіраў разам усіх тых, хто неабыякавы да беларускай культуры ў Калінінградзе.

Аб жыцці і творчасці Максіма Багдановіча распавёў слухачам госць з Мінска Мікола Трус, адданы і шчыры даследчык творчасці славутага беларускага песняра, загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускага тэхналагічнага ўніверсітэта.

Ён падкрэсліў значнасць не толькі паэзіі Багдановіча, але і яго сувязь з сусветнай культурай, яго дзейнасць літаратурнага крытыка і перакладчыка на беларускую мову Авідзія, Дантэ, Верлена, Верхарна, Шаўчэнкі, Кацюбінскага. Мікола Трус адзначыў, што Багдановіча памятаюць у тых мясцінах, дзе жыў вялікі песняр: у Яраслаўлі, Ніжнім Ноўгарадзе, Мінску, на Гарадзеншчыне, у Ялце. Там пастаўленыя помнікі паэту і заснаваныя музеі М.Багдановіча.

У Мінску быў выдадзены трохтомнік твораў Багдановіча. А цяпер пабачыла свет энцыклапедыя, прысвечаная творчасці славутага паэта. Першы сігнальны экзэмпляр энцыклапедыі быў перададзены ў падарунак Таварыству беларускай культуры ў Калінінградзе. Такім чынам, калінінградцы сталі ўдзельнікамі першай прэзентацыі названай вышэй энцыклапедыі Максіма Багдановіча!

На свяце паэзіі гучалі вершы паэта Віталя Рыжкова, песні ў выкананні Змітра Вайцюшкевіча, які выступіў з сольнай праграмай.

Вельмі цікавай была прамова мастака Алеся Пушкіна. Ён распавёў, пра тое, як паўплывала знаёмства з творчасцю Максіма Багдановіча на станаўленне яго светапогляду і нацыянальнай свядомасці.



*Ігар Шаховіч і Зміцер Вайцюшкевіч*

У Таварыства беларускай культуры ў Краляўцы (Калінінградзе) шмат сяброў, якія таксама бралі ўдзел у свяце паэзіі. Гэта таварыства ўкраінскай культуры, армянскай, літоўскай, яурэйскай ды іншых.

З удзячнасцю за запрашэнне і пажаданнем прыемнага вечара на вельмі добрай беларускай мове выступіў генеральны консул Літвы ў Калінінградзе Вацлаў Станкевіч, які дарэчы мае беларускія карані.

Імя Багдановіча згуртавала ў гэты вечар яго ўдзельнікаў і слухачоў, што прыйшлі без усялякага прымусу, а толькі з пачуццем захаплення і ўзрушанасці сапраўднымі і неўміручымі творамі беларускага народа.

*Паводле Л. Давыдзенкі*

# ДНІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА Ў ЯЛЦЕ

З вялікай шчырасцю, эмацыянальнай насычанасцю і непасрэднасцю прайшлі 2 і 3 снежня ў Ялце дні, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Яны сталі сапраўдным святам не толькі для беларускіх суполак Крыма, але і для ўсіх прыхільнікаў таленту паэта.

Для ўдзелу ў канцэрце на ўрачыстым вечары "Разам ляцець да зорак", прысвечаным юбілею паэта, які адбыўся ў клубе Чарнаморскага флоту "Ялта", сабралася шмат мастацкіх калектываў беларускіх суполак, многія з якіх прыехалі за сотні кіламетраў — з Севастопаля, Запарожжа, Феадосіі і іншых мясцін. Варта згадаць, што найлепшыя з іх адзначаныя прэміяй імя Максіма Багдановіча, якая заснавана ў Крыме.

Памятных падзей у Ялце адбылося нямала. Адной з галоўных стала адкрыццё ў гісторыка-літаратурным музеі спецыяльнай выстаўкі "Геній зямлі беларускай" з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску. Крыху раней тут адкрылася выстаўка "У вянок Максіму" мясцовых мастакоў і народных майстроў Крыма.

У межах Дзён Максіма Багдановіча прайшла выстава "Маладыя гады — маладыя жаданні". На ёй былі прадстаўлены працы навучэнцаў Ялцінскай дзіцячай мастацкай школы. Адметна, што кожны твор меў своеасаблівы эпіграф з твораў паэта.

Каляровыя афішы ў горадзе, розгалас пра тое, як святкуецца юбілей беларускага паэта, прыводзілі на кожнае мерапрыемства шмат удзельнікаў, і не толькі нашых землякоў. Шмат неабыякавых людзей узяло ўдзел у мітынгу на Старых гарадскіх могілках Ялты, дзе вось ужо 94 гады спачывае Максім Багдановіч. Шмат хто гаварыў пра значэнне творчасці паэта для сённяшніх чытачоў, гучалі словы прызнання ў любові да нашага класіка, чыталіся яго вершы.

Цікавую навіну паведаміла рэдактарка часопіса "Крым-Беларусь" Дзіна Шаўчэнка. Літаральна перад гэтымі днямі з Ялцінскага Нікіцкага батанічнага сада прыйшла вестка, што яго кіраўніцтва прыняло рашэнне адзін з новых гатункаў цюльпана, які мае колер васілька, назваць імем Максіма Багдановіча.

Удзельнікі памятных мерапрыемстваў усклалі кветкі да памятнай дошкі на будынку клуба, на месцы якога некалі стаяў дом, дзе правёў свае апошнія дні беларускі паэт, да дошкі на вуліцы імя Максіма Багдановіча, у якім ён жыў у 1909 годзе, да помніка паэту на тэрыторыі санаторыя "Беларусь" у Місхоры.

Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп прэзентаваў у Ялце новае арыгінальнае выданне твораў Максіма Багдановіча, толькі што выпушчанае ў свет фондам культуры. Гэта багата ілюстраваны трохтомнік, у кожны том якога ўвайшло ўсяго па адным вершы паэта і яго пераклады на 9 замежных моў. Украінскім студэнтам і навучэнцам, беларускім суполкам былі перададзены бібліятэчкі твораў Максіма Багдановіча, літаратура аб ім.

Дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску Таццяна Шэляговіч як бы падсумавала настрой усіх удзельнікаў святочных мерапрыемстваў: "Усё, што адбылося за гэтыя два дні ў Ялце, варта светлай памяці і таленту Максіма Багдановіча".

*Паводле газеты "Звязда"*

# БЕЛАРУСЫ ЛАТВІІ АДСВЯТКАВАЛІ 120-ГОДДЗЕ БАГДАНОВІЧА

Беларусы Латвіі адсвяткавалі ў Рызе 120-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча: узгадалі лепшыя вершы вялікага паэта і праспявалі іх. Вячаслаў Целеш, старшыня аб'яднання мастакоў Балтыі "Маю гонар", узгадвае, як 20 год таму святкавалі стагоддзе са дня нараджэння паэта. З таго часу штогод латвійскія беларусы ладзяць невялікія вечарыны.

"Яго патрыятызм распаўсюдзіўся па ўсім свеце, у тым ліку і на беларусаў Латвіі. Беларусу варта пачуць яго "Пагоню" ці "Зорку Венеру", каб пераканацца ў патрыятызме Максіма Багдановіча", – адзначыў Вячаслаў Целеш.

Адначасова з Багдановіцкімі чытаннямі латвійскія беларусы адкрылі фотавыставу, прысвечаную 850-годдзю крыжа Ефрасінні Полацкай.

Зладзіла выставу старшыня Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" Ірына Кузьміч. Яна ж – дачка беларускага майстра Міколы Кузьміча, які стварыў копію знакамітага крыжа

У 1997 г. брэсцкі ювелір-эмаліроўшчык, сябра Саюза мастакоў Беларусі Мікалай Кузьміч стварыў рэпрадукцыю крыжа Ефрасінні Полацкай. Новы крыж быў асвечаны і перададзены ў Ефрасіннеўскі манастыр.



Фрагмент копіі крыжа, створанага Міколам Кузьмічом

Галоўная мастацкая вартасць твора – мініяцюрныя выявы святых, зробленыя ў тэхніцы перагародчатай эмалі. Тэхніка заключаецца ў стварэнні малюнкаў тонкімі залатымі ніткамі, якія затым умацоўваюцца на металічных пласцінах і запаўняюцца рознакаляровымі эмалямі.

Сапраўднаму крыжу, які знік у вайну з магілёўскага музея, сёлета споўнілася б 850 гадоў. Гэтаму юбілею і прысвечана фотавыстава ў Рызе.

*Паводле "Еўрарадыё" і "Нашай Нівы"*

# У ЦЮМЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ ПРАЙШЛІ ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Дні беларускай культуры прайшлі ў Цюменскай вобласці з 4 па 10 лістапада. У гэтым годзе праграма атрымалася асабліва разнастайнай, кожны ад малога да вялікага мог наведаць мерапрыемства па інтарэсах.

У сяле Дзясятава Ішымскага раёна адбыліся выстаўка "Вясёлка дзяцінства", дзе былі прадстаўлены работы дзіцячай студыі дэкаратыўна-прыкладнай творчасці "Вясёлка", (выцінанкі) і музычна-гульнявая праграма для дзяцей і моладзі "Сонечны прамень".

У сяле Вікулава прайшла этнаграфічная выстава, прысвечаная беларусам-самаходам "Самаходы". След у гісторыі Вікулаўскай зямлі"; а таксама выстава, прысвечаная 70-годдзю з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны "Імёны ваенных зводак".

У сяле Ермакі Вікулаўскага раёна была арганізавана этнаграфічная выстава "Народная творчасць і прадметы побыту "самаходаў".

"Матуліны казкі" – так называлася выстава кніг для дзяцей і моладзі на беларускай мове ў Цюменскай абласной навуковай бібліятэцы імя Канстанціна Логунава. Акрамя вучэбных дапаможнікаў па беларускай мове, тут былі прадстаўлены казкі, апавяданні, вершы, прыгодніцкія аповесці вядомых беларускіх аўтараў, а таксама кнігі дзіцячых замежных пісьменнікаў, выдадзеныя на беларускай мове. Школьнікі змаглі пазнаёміцца з гісторыяй, святамі, абрадамі і звычаямі беларускага народа.

У Палацы нацыянальных культур "Будаўнік" (Цюмень) былі арганізаваныя выставы дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Гледачы змаглі ўбачыць вырабы з саломкі, пацерак, выставы беларускіх ручнікоў. Кожны жадаючы мог задаць пытанні майстрам, якія распавядалі пра гісторыю свайго рамяства, беларускіх звычаях і абрадах, афармленні жытла ў нацыянальным стылі, аб нацыянальных касцюмах і стравах і г.д.

Яркай падзеяй Дзён беларускай культуры стаў канцэрт "На свята запрашаем сяброў", прысвечаны фальклорна-этнаграфічным ансамблям "Вячоркі" і "Расіяначка", якія ў гэтым годзе адзначаюць юбілеі сваёй творчай дзейнасці.

У канцэртнай праграме ўзялі ўдзел вакальны ансамбль "Жывіца"; народны ансамбль беларускай песні "Лянок"; моладзевы ансамбль "Палессе"; харэаграфічны ансамбль "Акварэль"; салісты Валерый Кайчанкоў, Галіна Емяльянава, Анжэла Брэлік і Юлія Чарапанава.

Своеасаблівым працягам Дзён беларускай культуры стаў святочны канцэрт ансамбля "Вячоркі", які адбыўся 20 лістапада ў вёсцы Вікулава (раён кампактнага пражывання беларусаў-самаходаў). Калектыў прымаў творчыя віншаванні і падарункі ад старых сяброў, прадстаўнікоў раённай і абласных адміністрацый.

*Паводле Уладзіслава Татарынцава*

# Дзень Герояў у Львове

Прадстаўнікі беларускай апазіцыі разам з жыхарамі Львова і мясцовымі палітыкамі 27 лістапада адзначылі беларускае нацыянальнае свята – Дзень герояў.

Беларусы Львова пачалі святкаванне малітвай за мінулых і сучасных герояў Беларусі ў львоўскім храме – за тых, хто загінуў 91 год таму і за 14 цяперашніх палітвязняў Беларусі.

Беларуская апазіцыя разам з жыхарамі Львова ўшанавала памяць удзельніка паўстання 1830-31 гадоў Сымона Шыдлоўскага, які пахаваны ў Львове, а таксама правяла круглы стол, дзе гаварылася пра гістарычнае значэнне падзеяў 1920 года і пра сучасныя рэаліі Беларусі.

Дзень герояў Беларусі завершыўся мітынгам ля помніка Тарасу Шаўчэнку і шэсцем да манумента правадыру Арганізацыі украінскіх нацыяналістаў Сцяпану Бандэру.

*Паводле "Радыё Свабода"*

# Дзень Герояў у Бельгіі

Беларусы Бельгіі 27 лістапада адзначылі чарговую гадавіну Слуцкага Збройнага Чыну. У Беларускай грэка-каталіцкай царкве Антверпена ў часе Літургіі адбылася малітва за Слуцкіх паўстанцаў і ўсіх беларускіх герояў і пакутнікаў, якія аддалі свае жыцці за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны. Радны БНР айцец Ян Майсейчык зачытаў зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы.

*Паводле bielarus.eu*

# ДЗЕНЬ БЕЛАРУСІ Ў КАНАДЗЕ АБО ЯК КАНАДСКІЯ БЕЛАРУСЫ ПРЭЗЕНТАВАЛІ БАЦЬКАЎШЧЫНУ

Канада – краіна імігрантаў. Улады як на федэральным, так і на мясцовым узроўнях, праводзяць у жыццё палітыку шматкультурнасці, абвешчаную у свой час прэм'ер-міністрам П'ерам Трудо, не перашкаджаючы разнастайным этнічным групам, якія складаюць насельніцтва Канады, падтрымліваць і развіваць свае нацыянальныя культурныя традыцыі, каштоўнасці.

У аздараўленчым цэнтры невялічкага 40-тысячнага гарадка з самым што ні ёсць канадскім назовам Мэйпл, што азначае клён, ужо на працягу дзевяці год працуе медсястрой Света Кот, якая прыбыла са сваёй сям'ёй ў Канаду з Мінска трынаццаць з паловаю год таму.

У знак пашаны за ейную добрасумленную доўгатэрміновую працу адміністрацыя цэнтру абвясціла 22 лістапада 2011 г. Днём Беларусі і папрасіла Свету рэпрэзентаваць краіну свайго паходжання перад медперсаналам і пацыентамі.




*Света Кот каля выставы пра Беларусь*

Света падрыхтавала выставу з рэчаў, што знайшліся на той час у хаце. Гэта фотаальбомы "Музей старажытнае беларускае культуры", пра Мінск, пра беларускія замкі і палацы. На стале былі выкладзены кніга Уладзіміра Арлова "Краіна Беларусь", газеты "Беларус" (выдаецца ў ЗША), "Беларускае Слова" (газета канадскіх беларусаў). Таксама былі раскладзены знятыя з хатніх сценаў керамічныя талеркі з выявамі архітэктурных помнікаў Беларусі, сабраныя эмблемы гарадоў Пружаны, Бярэсце, Мінск, гарадскога пасёлка Ружаны, кубак з выяваю гербу знакамітага беларускага роду. На стэндах былі размешчаны раздрукаваныя выявы ўзораў беларускіх нацыянальных строяў розных часоў і рэгіёнаў Беларусі, мапа Беларусі з назовамі галоўных гарадоў, іншая друкаваная інфармацыя пра Беларусь. На асобным стэндзе былі прадстаўлены выявы бел-чырвона-белага сцягу і герба Пагоня.

Прысутныя з цікавасцю разглядвалі ільняныя ручнікі, якія ад высаджвання ільну і да вышывання арнаменту былі цалкам выраблены свякроўю Светы ў канцы саракавых гадоў мінулага стагоддзя. І, канечне, наймацнейшае ўражанне на прысутных аказаў нацыянальны беларускі строй, у які перад пачаткам прэзентацыі хуценька пераапранулася Света. Пасля скканчэння яе натхнёнага расповеду пра сваю краіну амаль увесь адміністрацыйны і медыцынскі персанал і тыя пацыенты, хто мог па стане здароўя, стаялі ў чарзе, каб зрабіць на памяць здымак са Светай. Некаторыя з іх потым прызнаваліся Свеце, што раней лічылі, што Беларусь і Малдова ёсць рэгіёнамі Украіны.

Увага, падзякі з боку кіраўніцтва цэнтру і асабліва ад пацыентаў, дзеля якіх дзяржава і пабудавала гэтую цудоўную аздараўленчую ўстанову, асэнсаванне годнасці здзейсненага надаюць людзям унутранай сілы духоўна выжыць на чужыне.

*Ю. Трубец*

# БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-МУЗЫЧНЫ "ЗОРАПАД" У ІЗЯСЛАВЕ

9 снежня штогод у гурце беларускай культуры "Зорка Венера" (Ізяслаў, Украіна) свята: сябры гурта запрашаюць сваіх родных і блізкіх, знаёмых ізяслаўчан разам адзначыць чарговыя ўгодкі з дня нараджэння славутага песняра зямлі беларускай Максіма Багдановіча. Гэты год не стаў выключэннем. Да 120-ых угодкаў сябры гурта падрыхтавалі літаратурна-музычны "зорапад" "Жывеш не вечна, чалавек", які адбыўся 2 снежня.

Свята пачалося з чытання трыялета "Калісь глядзеў на сонца я" ў выкананні Алесі Мозуль. Яе змяніў Дзмітрусь Франчук, які прачытаў уласны пераклад на ўкраінскую мову трыялета "Як птушка ў гібкіх трасніках".

Потым кіраўнік гурта Пятрусь Капчык запрасіў прысутных паслухаць знакамітую "Зорку Венеру" ў выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.Цітовіча (аўдыёзапіс).

Пасля гэтага пачаўся сапраўдны "зорапад"... санетаў Багдановіча! На думку Петруся Капчыка, лепш за ўсё ў арыгінале былі прачытаныя санеты "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі" ды "На цёмнай гладзі сонных луж балота" Аленай Кастушэвіч і Святланай Гут.

Гарачыя апладысменты ўсіх удзельнікаў літаратурна-музычнага свята выклікаў уласны верш мясцовага паэта Васіля Краўчука пад назвай "Зорка Венера" заўсёды са мною"(паўкраінску).

Завяршыўся Багдановічаў "зорапад" чытаннем санета "Маладыя гады". Гэты верш чыталі 16 чалавек, кожны па адным радку рознымі мовамі: беларускай, украінскай, рускай, польскай, славацкай, чэшскай, венгерскай, румынскай, крымска-татарскай, французскай, нямецкай, англійскай, іспанскай, партугальскай, сербскай, македонскай.

*Паводле Петруся Капчыка*

# У КІЕВЕ ПРАЙШЛА АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ З БЕЛАРУСКІМІ ПАЛІТВЯЗНЯМІ

Моладзевая акцыя салідарнасці з беларускімі палітвязнямі адбылася 11 снежня ў Кіеве ў межах тыдня салідарнасці з Беларуссю.

З Уладзімірскай горкі былі запушчаны ў неба 11 паветраных ліхтароў з партрэтамі беларускіх палітзняволеных і подпісам "Свабоду!". За акцыяй назіралі сотні жыхароў горада.

Затым удзельнікі акцыі накіраваліся да цэнтральнага паштампа Кіева, адкуль адправілі паштоўкі беларусам, якія зараз знаходзіцца за кратамі з-за сваіх перакананняў.

Таксама ў межах тыдня салідарнасці з Беларуссю адбыліся дыскусія "Як украінскія журналісты могуць дапамагчы Беларусі?", круглы стол украінскіх пісьменнікаў "Літаратары супраць рэпрэсій у Беларусі", прэзентацыя дакументальнага фільма Вольгі Мікалайчык "Забойства напярэдадні вясны".

У дзень гадавіны Плошчы ў Кіеве адбылося пікетаванне пасольства Беларусі "Свабоду палітвязням!".

*Паводле Юрася Карэтнікава*



# БЕЛАРУСЫ ІРКУЦКА АКТЫЎНА РЫХТУЮЦЦА ДА КАЛЯДАЎ

Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага кожны год з моманту свайго заснавання ладзіць святкаванне асноўных традыцыйных беларускіх святаў, у тым ліку і Калядаў.

Па словах старшыні ІТБК Алега Рудакова, іркуцкія беларусы святкуюць Каляды з 24 снежня да 7 студзеня.

"У нас ужо склалася такая традыцыя. Кожны год мы ходзім калядаваць не проста так, а туды, куды нас запрашаюць, напрыклад, на нейкія вечарыны ці калі хтосьці збірае гасцей перад Новым годам. Бывала нават такое, што і 31 снежня калядаваць хадзілі. У гэтым годзе пакуль што маем толькі адну замову", – распавёў Алег Рудакоў.

Сёлета 24 снежня Іркуцкія беларусы правялі абрадавыя моладзевыя вячоркі "Жаніцьба Цярэшкі". У гэты дзень адбылася таксама прэзентацыя першай кружэлкі гурта "Крывічы", створанага пры ІТБК. Пачалася вечарына з аўтэнтычных беларускіх спеваў у выкананні гурта "Крывічы", а потым адбылася абрадавая гульня "Жаніцьба Цярэшкі".

7 студзеня сябры ІТБК па традыцыі ладзяць беларускія Каляды. Па папярэдняй дамоўленасці свята мусіць адбыцца ў Абласной філармоніі Іркуцка.

"На Каляды ў нас заўсёды збіраецца каля 300 чалавек, – распавядае Алег Рудакоў. – Гэта будзе канцэртная праграма, безумоўна, з блокам калядоўшчыкаў. Бывае, што мы робім нейкія сцэнкі, але ў нас заўжды ёсць гурт калядоўшчыкаў. Механоша ходзіць па зале, збірае падарункі. Мы нават часам жартуем: "Не давайце нам сала, давайце нам болей даляраў". Дарэчы гэта дзейнічае, з кожным годам нам даюць больш грошай. Потым тыя грошы, якія мы накалядавалі, выкарыстоўваюцца на дзейнасць таварыства".

Сёлета спецыяльна на свята з Беларусі прыедзе Зміцер Вайцюшкевіч. У папярэднія гады на іркуцкіх калядах пабывалі Зміцер Сасноўскі, Кася Камоцкая, Таццяна Беланогая, Алесь Камоцкі і іншыя беларускія музыкі.

Свята будзе складацца з некалькіх частак. Спачатку выступяць беларускія гурты з Іркуцка, потым будзе канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча, потым – калядны блок, і завершыцца свята танцавальным блокам.

Яшчэ адным значным мерапрыемствам, якое мусіла адбыцца напрыканцы года, павінна была стаць 2-ая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя: "100-годдзе Сталыпінскай рэформы – самага масавага перасялення беларусаў у Прыбайкалле".

Планавалася, што канферэнцыя адбудзецца 17 снежня, аднак з-за фінансавых цяжкасцяў мерапрыемства прыйшлося адмяніць. Тым не менш, па словах Алега Рудакова, цалкам ад правядзення канферэнцыі ІТБК не адмаўляецца, проста вырашана было яе перанесці на вясну будучага года.

"Вясной і часу будзе болей, бо зараз шмат падрыхтоўкі патрабуюць калядныя святы, – гаворыць Алег Рудакоў. – Увогуле цікавасць да канферэнцыі вялікая, паступіла ўжо шмат заявак ад навукоўцаў на ўдзел, ёсць заяўкі і з Беларусі".

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў студзені: **Анатоля Грыцкевіча, Вольгу Іпатаву, Міколу Купаву** (Беларусь), **Яўгена Янчука** (Польшча), **Георгія Плашчынскага** (Расія), **Зінаіду Клыгу** (Эстонія), а таксама старшыню Рады **Ніну Шыдлоўскую**. Жадаем вам выдатнага здароўя, аптымізму, натхнёнай працы, поспехаў ва ўсіх справах.

У студзені наступныя сябры Вялікай Рады адзначаюць юбілеі: 14 студзеня – **Аляксандр Лагвінец** (Беларусь), 20 студзеня – **Віктар Сулкоўскі** (Расія). Віншуем вас з юбілеямі і зычым здароўя, шчасця, дабрабыту, узаемапаразумення з блізкімі, плёну ў працы, здзяйснення ўсіх вашых мараў.



*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## БЕЛАРУСАЎ У РАСІІ СТАЛА НА 300 ТЫСЯЧ МЕНЕЙ

Федэральная служба дзяржстатыстыкі Расіі падвяла вынікі Усерасійскага перапісу насельніцтва, які праходзіў у 2010 годзе.

Для беларускай меншасці ў гэтай краіне вынікі аказаліся прадказальна змрочнымі. З 818 тысяч у 2002 годзе колькасць беларусаў у Расіі зменшылася да 521 тысячы. Упершыню расійскіх беларусаў стала меней, чым асецінаў, казахаў і ўдмуртаў.

Па колькасці носьбітаў беларускай мовы дадзеных пакуль няма, але там сітуацыя можа быць яшчэ горшай.

Паказальна, што паводле апошняга перапісу часоў СССР, у 1989 г. у Расіі пражывала 1,2 мільёна беларусаў.

Як бачым, ва ўмовах адсутнасці падтрымкі беларускай культуры з боку Рэспублікі Беларусь ідзе імклівая асіміляцыя і страта нацыянальнай ідэнтычнасці беларусамі ў Расіі.

Калі беларускасць незапатрабаваная дзяржавай і вымушаная змагацца за выжыванне ў самой Беларусі, то ў замежжы, ва ўмовах іншамоўнага і іншакультурнага асяроддзя, тым больш яна губляецца вельмі хутка.

Ад гэтага больш за ўсё нясе страты сама Беларусь, у тым ліку ў эканамічным і геапалітычным планах.

*Паводле "Нашай Нівы"*

## ЗАЯВА БЕЛАРУСАЎ АМЕРЫКІ:
### Мы пратэстуем супраць гандлю жыццёва важнымі інтарэсамі беларускага народу

Сябры Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА) 27 лістапада прынялі заяву ў сувязі з апошнімі падзеямі ў Беларусі. На думку аўтараў заявы, гэтыя падзеі вядуць да страты дзяржаўнай незалежнасці краіны.

"У страху за сваё жыццё і захаванне ўлады дыктатар пайшоў на дзяржаўную здраду. Падпісаныя ў Маскве дамовы пра быццам бы толькі эканамічны Еўразійскі саюз тояць у сабе злавесную пагрозу не толькі эканамічнай, але і далейшай палітычнай інкарпарацыі нашай краіны ў склад новай Расійскай імперыі", – гаворыцца ў заяве.

"Мы пратэстуем супраць гандлю жыццёва важнымі інтарэсамі беларускага народу, які вядзе сёння Лукашэнка з імперскаю Расіяй", – пішуць аўтары заявы.

Сябры БАЗА заклікаюць беларускую эміграцыю ў свеце падтрымаць прынятую заяву і выказаць свой пратэст супраць здрадніцкай палітыкі А. Лукашэнкі.

Тэкст заявы цалкам можна прачытаць на сайце zbsb.org

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## У НОВАСІБІРСКАЙ ВОБЛАСЦІ ПРАЙШОЎ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

Абласны фестываль беларускай народнай творчасці "У гасцях у Лявоніхі" прайшоў у пасёлку Кочэнева (Новасібірская вобласць, Расія). Амаль паўтары сотні самадзейных артыстаў і майстроў прыкладной творчасці сабраліся ў раённым Доме культуры.

У фае гасцей сустракаў вядомы на ўвесь раён і за яго межамі народны ансамбль "Чапурушка". Творчыя сі-лы гасцей таксама былі на ўзроўні. Як добрыя старыя знаёмыя, сустрэліся на ко-чэнеўскай зямлі народныя ансамблі "Сібірскія ўзоры" з сяла Смаленка Машкоўскага раёна, "Дабрадзея" з далёкага сяла Севернае, калыванскі вакальны ансамбль "Разлог" і вядомыя калектывы з Кочанева – "Фантазія", "Пацешкі", "Варэнічкі". Асабліва сустрэчы радаваліся дзеці, а іх сярод удзельнікаў фестывалю было не менш, чым дарослых. На правах гаспадароў юныя кочэнеўскія артысты апекаваліся сваімі "калегамі" па сцэне – узорным харэаграфічным ансамблем "Забава" з Бердска, фальклорным ансамблем "Чеботочки" з сяла Вагайцава Ардынскага раёна, ансамблем танца народаў Сібіры "Надзея" і іншымі сваімі аднагодкамі.

Цудоўнымі песнямі і танцамі артысты ўпрыгожвалі галоўную падзею, якая адбывалася на сцэне. А там разгортвалася каларытнае абрадавае дзейства: любімыя персанажы беларускага фальклору Лявон з Лявоніхай і іх госці сустракалі Талаку, славянскую апякунку жніва і ўрадлівасці. Гледачы з цікавасцю ўспрымалі тэатралізаванае прадстаўленне, даведваліся, што Талака адзначаецца пасля таго, як прыбраны ўраджай, звязаны апошні сноп, у людзей поўныя засекі, пачынаюць спраўляцца вяселлі. Моладзь збіраецца на вячоркі, вызначае, у каго самы багаты ўраджай, да каго пара сватоў засылаць.

У тэматыку фестывалю ўдала ўпісвалася і выстава майстроў прыкладнога мастацтва. На выставе можна было ўбачыць вырабы з саломкі, дрэва, найтанчэйшыя вязаныя карункі, а таксама ільняныя абярэгі ў выглядзе лялечак і звяркоў, выкананыя 5-6-гадовымі ўмельцамі дзіцячай студыі "Калейдаскоп" з сяла Масляніна.




*Гасцей сустракае народны ансамбль "Чапурушка"*

Дыпломы атрымалі ўсе ўдзельнікі свята – ад ветэранаў сцэны да самых юных артыстаў. Уручаючы ўзнагароды, дырэктар Новасібірскага дзяржаўнага цэнтра беларускай культуры Ніна Кабанава адзначыла:

"Творчыя сілы кочэнеўцаў даўно паспелі для падобнага свята і нашы надзеі апраўдаліся. На свята я запрасіла супрацоўніцу раённага ўпраўлення культуры з Чанаў (рэд. – пасёлак у Новасібірскай вобласці). Святлана Дальчаніна як чалавек творчы пастаянна праяўляе цікавасць да нацыянальных культур. Пабываўшы на фальклорным фестывалі ў Кочэнева, яна з'ехала з цвёрдым намерам глыбей спазнаць культуру беларускага народа і стварыць у Чанах філіял Цэнтра беларускай культуры. Вядома, мы акажам усялякую дапамогу – касцюмамі для ўдзельнікаў самадзейнасці, метадычнай літаратурай – і думаем, што ў будучым годзе ў вобласці з'явіцца яшчэ адзін, ужо шаснаццаты філіял Цэнтра".

*Паводле Людмілы Бяляўскай*

# БЕЛАРУСЫ ВІЛЬНІ АДЗНАЧЫЛІ ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

Святочная імпрэза, прысвечаная ўгодкам Слуцкага Збройнага Чыну, адбылася 26 лістапада ў Таварыстве беларускай культуры ў Літве. Старшыня ТБК Хведар Нюнька зачытаў адмысловы Зварот да беларусаў свету Старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы.

Затым быў паказаны дакументальны фільм, дзе былы сябра Рады ТБК Валеры Місюк, які, на жаль, трагічна загінуў, падрабязна распавёў пра ход Слуцкага паўстання.

Хведар Нюнька паказаў прысутным фотаздымкі помніка-капліцы на беларускіх могілках Мельбурна. Капліца з надпісам "на вечны ўспамін спачылых усіх ведамых і няведамых беларусаў" пабудавана намаганнямі аўстралійскіх беларусаў 35 гадоў таму. Пакуль гэта адзіная капліца загінулым беларусам у свеце.

Старшыня ТБК коратка распавёў пра юбілей віднага беларускага дзеяча ў міжваенны час у Вільні Янку Багдановіча, рэдактара часопіса "Шлях моладзі". За беларускую патрыятычную дзейнасць быў пакараны бальшавікамі і адсядзеў у сталінскіх лагерах. Пасля вызвалення вымушаны быў працаваць у польскіх школах.

Свае выступленні падзеям у Беларусі і Літве прысвяцілі сябры: Кастусь Манкус і Алег Аблажэй. З прывітальным словам выступіў дырэктар фонду грамадзянскай абароны Стасіс Каўшыніс.

Заключным акордам на імпрэзе было святкаванне дня народзінаў сябра Рады ТБК Вацлава Гульбіновіча. Самыя шчырыя віншаванні і пажаданні паважанаму юбіляру выказвалі ўсе прысутныя за святочным сталом.

*Аглядальнік*

НАВІНЫ ДРУКУ

# ВЫЙШАЎ 34 НУМАР "ЗАПІСАЎ БІНІМ"

Тэма сёлетняга нумару альманаха "Запісы БІНІМ", прысвечанага даследаванню беларускай эміграцыі, — беларусы ў Нямеччыне.

У ім друкуюцца даследаванні: Лявона Юрэвіча "Краіна Ды-Пі: замалёўкі побыту і нораваў з лагерных часоў", Вітаўта Кіпеля "Моладзь у лагерах Ды-Пі", Алеся Марговіча "Шлях беларускіх дзяцей у апошняю вайну", Барыса Данілюка "Лісты пра Остаўцаў і Дыпістаў у французскай зоне", Івонкі Сурвіллы "Ды-Пі лагеры ў Даніі".

Таксама змешчаны лісты Антона Адамовіча і перапіска Людвіка Галубовіча (Зарэчнага) з Дзмітрыем Касмовічам, успаміны Юрыя Сабалеўскага "Беларуская сялянска-работніцкая грамада", што ў 1960-я друкаваліся ў часопісе брытанскіх беларусаў "Аб'еднанне". Тут яны перадрукаваныя з грунтоўнай прадмовай гісторыка Аляксандра Пашкевіча.

У нумары таксама змешчаны артыкул Наталлі Гардзіенкі "Да гісторыі беларусаў у Мюнхенскім інстытуце вывучэння СССР" з бібліяграфіяй беларускіх перыёдыкаў установы.

Друкуецца падборка матэрыялаў, прысвечаных памяці мюнхенскага даследчыка Паўлы Урбана з яго ўспамінамі, артыкул Лявона Юрэвіча пра Язэпа Варонку, а таксама Андрэя Блінца "Яшчэ раз праз Наваградскі эскадрон Рагулі".




*"Наша Ніва"*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА СТУДЗЕНЬ 2012 ГОДА

6 студзеня – 120 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Адам Станкевіч (1892-1949), рымска-каталіцкі святар, грамадска-культурны дзеяч, асветнік, літаратуразнавец, выдавец.

7 студзеня – Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары.

7 студзеня – 95 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Святаслаў Коўш (1917-1997), праваслаўны святар, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

18 студзеня – 100 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Пётр Сыч (1912-1963), пісьменнік, аўтар аповесці "Смерць і салаўі" пра бітву пад Монтэ-Касіна, публіцыст, вязень савецкіх канцлагераў, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Нямеччыне.

18 студзеня – 65 гадоў таму, у 1947-м , у Лондане пачаўся (доўжыўся два дні) Першы з'езд Згуртавання Беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ).

20 студзеня – 120 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч (1892-1938), грамадска-палітычны і асветны дзеяч, мова-знавец, публіцыст, перакладчык, літаратуразнавец.

20 студзеня – 120 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Рыгор Шырма (1892-1978), грамадска-культурны дзеяч, харавы дырыжор, фалькларыст, публіцыст.

26 студзеня – 105 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Мікалай Лапіцкі (1907-1976), праваслаўны святар, рэлігійна-грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

27 студзеня – 85 гадоў таму, у 1927-м, у Вільні выйшла газета "Наш голас", орган БСРГ (выдавалася да 28 лютага 1927 г. двойчы на тыдзень).

28 студзеня – 90 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Янка Жамойцін (1922-2003), грамадскі дзеяч, публіцыст, беларускі дзеяч у Польшчы.

28 студзеня – 10 гадоў таму, у 2002-м, у ЗША ў доме для састарэлых памёр Пётр Манькоўскі (1916-2002), публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

30 студзеня – 90 гадоў таму, у 1922-м, у Мінску заснаваны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт).

**Беларусы ў свеце**
№12 (117), снежань 2011

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск 220030, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27